## №3 Дарэвалюцыйны адміністрацыйны будынак хлебазавода ў Магілёве

**У красавіку 2013 года магілёўскай грамадскасці і праваабаронцам стала вядома пра знос дарэвалюцыйнага будынка магілёўскага хлебазавода, які размяшчаўся ў цэнтры горада па вуліцы Левая Дубравенка, 32.**



Знос будынка адбыўся настолькі хутка і раптоўна, што магілёўская грамадскасць ніяк не здолела на яго адрэагаваць. Ніякіх грамадскіх слуханняў з гэтай нагоды ўлады не праводзілі.

Паводле гісторыкаў адміністрацыйны будынак хлебазавода меў гістарычную каштоўнасць і адносіўся да прамысловай архітэктуры. Ён не быў аварыйным і пры рамонце мог працягваць сваё існаванне маючы зусім іншыя функцыі.

Каля трыццаці год назад быў надбудаваны трэці паверх, што сведчыць пра тое, што ў будынка быў трывалы фундамент.

Варта адзначыць, што будынак таксама не меў статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Зараз на месцы, дзе знаходзіўся дарэвалюцыйны будынак вядзецца будаўніцтва элітнага жыллёвага комплексу. Цэны на метр квадратнага жылля пачынаюцца ад 1200 долараў ЗША.

## №4 Двухпавярховы будынак часоў Рэчы Паспалітай у Магілёве

**У лютым 2014 года горад пазбавіўся яшчэ аднаго ўнікальнага будынка, які паводле гісторыкаў быў пазначаны на гарадскіх мапах другой палова XVIII стагоддзя.**



Дом размяшчаўся па вуліцы Вароўская, 9 каля Быхаўскага рынка. У ім доўгі час пражывалі звычайныя грамадзяне.

Гарадскія ўлады палічылі, што дом з'яўляецца аварыйным і вырашылі ад яго пазбавіцца з дапамогай бульдозераў.

Па недарэчнасці будынак не меў статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці.

Тым не менш гісторыкі і праваабаронцы сцвярджалі, што ў дома тоўстыя і трывалыя сцены і прастаяць ён мог яшчэ не адно стагоддзе.

Спачатку дом быў аднапавярховым. Па сведчанні гісторыкаў другі паверх быў надбудаваны з цэглы Іосіфаўскага сабора, які быў узарваны бальшавікамі ў 1939 годзе.

Доўгі час некалькі грамадскіх арганізацый змагалася за тое, каб магілёўскія чыноўнікі аддалі ім гэты дом, аднак так і засталіся не пачутыя. Лідары грамадскіх арганізацый бралі на сябе абавязак адрамантаваць будынак і размясціць у ім офісы сваіх арганізацый.

Трэба адзначыць, што Міністэрства культуры не ўбачыла адметнасці гэтага будынка і адзначыла, што дом не з'яўляецца рэдкім і выбітным узорам дадзенага гістарычнага перыяда.

Раней гэты дом быў уласнасцю губернатара Магілёва. У ім жыў аканом. Тут жа размяшчаліся цяпліцы, з якіх прадукты пастаўляліся на стол губернатара.


# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№71

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 5 чэрвеня 2014 г.

Надрукавана на ксераксе.
Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў,
вул. Ленінская, 29.
Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

**Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда**


ГРАМАДСТВА

■ Якуб Корсак

## ГАЗЕТА "НАШ МАГІЛЁЎ" РАСПАЧЫНАЕ ІНФАРМАЦЫЙНУЮ КАМПАНІЮ "ЗАХАВАЕМ СТАРЫ МАГІЛЁЎ"

**У межах кампаніі плануецца шырокае інфармаванне грамадзян аб стане архітэктурных будынкаў, якія ўваходзяць у спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў горада.**




Таксама плануецца правядзенне круглага стала з прадстаўнікамі грамадскасці, дзе будуць абмяркоўвацца механізмы абароны гістарычных будынкаў, якія мясцовыя ўлады па тых ці іншых меркаваннях плануюць знесці.

У якасці экспертаў будуць выступаць магілёўскія гісторыкі і грамадскія актывісты. Таксама плануецца напісанне цыклу інтэрвью з экспертамі аб ролі гісторыка-культурнай спадчыны Магілёва і цыклу артыкулаў, якія будуць прысвечаны старому Магілёву.

Газета "НАШ Магілёў" ужо распачала працу па стварэнні фота-архіва ўсіх аб'ектаў і мясцінаў горада, якія маюць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці і знаходзяцца пад аховай дзяржавы. На дадзены момант гэты спіс складаецца з 55 аб'ектаў і комплексаў аб'ектаў.

"Неабходнасць у правядзенні такой інфармацыйнай кампаніі назрэла ў пачатку 2014 года, калі мы падвялі вынікі 2013 года і прааналізавалі што згубіў горад з гістарычных аб'ектаў за увесь мінулы год. Аказалася, што і не так мала. Усе разбурэнні адбываліся без уліку інтарэсаў грамадзян і шырокага грамадскага абмеркавання", - кажа галоўны рэдактар газеты "НАШ Магілёў" Ігар Барысаў.

Амаль ва ўсіх выпадках неабходнасці руйнаваць гістарычную спадчыну не было патрэбы, а для захавання культавых магілёўскіх будынкаў патрэбна была рэстаўрацыі і перапрафеліраванне адрамантаваных дамоў.

**Працяг на стр.2**

■ Станіслаў Дубовік

## АД РЭДАКЦЫІ

**Паважаныя Магілёўцы!**

На дварэ XXI стагоддзе, аднак наш горад перажывае далёка не самые лепшыя часы ў сваім росквіце і развіцці.

Горад не з'яўляецца прыцягальным месцам для турыстаў, тэмпы эканамічнага развіцця зусім не натхняюць, а яго архітэктурнае аблічча далёка не радуе магілёўцаў.

Менавіта за савецкімі часамі былі разбураны амаль усе цэрквы і касцёлы, а таксама іншыя старажытныя будынкі.

Новая беларуская ўлада таксама не спяшаецца шанаваць тое, што засталося, не кажучы пра тое, каб адрадзіць нешта раней страчанае.

За часы незалежнасці Магілёў займеў толькі адроджаную Ратушу, якая неўзабаве стала адным з сімвалаў горада, а таксама адным з найбольш важкіх сацыяльна-культурніцкіх аб'ектаў. Былі вернуты некаторыя дарэвалюцыйныя назвы вуліцам, аднак усе гэтыя з'явы кропля ў моры таго, што можа быць зроблена пры большай разважлівасці, ініцыятыўнасці і паразуменні неабходнасці з боку мясцовай улады.

Мы працягваем жыць у горадзе, які становіцца спальным месцам без адметнага гісторыка-культурнага цэнтра. Без такога цэнтра немагчыма казаць пра наяўнасць элементаў гарадской культуры.

Толькі разам мы зможам зварухнуць пытанне з адраджэннем гістарычнага цэнтра і недапусціць руйнаванне таго, што захавалася.

## ГАЗЕТА “НАШ МАГІЛЁЎ” РАСПАЧЫНАЕ ІНФАРМАЦЫЙНУЮ КАМПАНІЮ “ЗАХАВАЕМ СТАРЫ МАГІЛЁЎ” (ПАЧАТАК НА СТР.1)

“На дадзены момант сярод гараджан, прадстаўнікоў грамадскасці і чыноўнікаў няма адназначнага пытання датычна таго, што трэба адраджаць у Магілёве з той спадчыны, якую горад згубіў за часамі савецкай улады. Пасля таго, як адбылося аднаўленне Ратушы гэтым пытаннем ніхто не задаваўся. Трэба, каб сабраўшыяся на круглым стале прыйшлі да нейкай адназначнай узважанай пазіцыі”, - гаворыць Барысаў.

Трэба адзначыць, што ў 2013 годзе ў Магілёве былі разбураны дарэвалюцыйны будынак анкалагічнага хоспіса па вуліцы Лепяшынскага, дом па вуліцы Вароўскага, 9 (значыўся на мапе яшчэ часоў Рэчы Паспалітай), адміністрацыйны будынак хлебазавода па вуліцы Левая Дубравенка, 32 (з’яўляўся дарэвалюцыйным будынкаў, самым старым прамысловым будынкам горада), а таксама паштовую станцыю XIX «Вільчыцы» вёсцы «Навасёлкі» пад Магілёвам.

Таксама ў мінулым годзе дамы №5, 7, 13 і 15 па вуліцы Лазарэнкі былі пазбаўлены статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці. Зараз частка з іх перабудоўваецца пад гандлёвыя аб’екты.

На думку гісторыкаў і праваабаронцаў усе пералічаныя будынкі не былі аварыйнымі, а некаторыя з іх былі зруйнаваныя праз няхайнасць чыноўнікаў. У іншых выпадках на месцы зруйнаваных будынкаў пачалося будаўніцтва прэстыжных дамоў.



**На фота Ігар Барысаў**

**■ Жанна Юбніцкая**

## У МАГІЛЁВЕ ЦЭЛЫ КВАРТАЛ ПАЗБАВІЛІ СТАТУСА ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНАЙ КАШТОЎНАСЦІ

**27 лістапада 2013 года такое рашэнне было прынята Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай радай па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь.**




Дамы па вуліцы Лазарэнкі №5, 7, 13 і 15 больш не ахоўваюцца дзяржавай. Замест рэстаўрацыі некаторыя з іх ужо прадалі новаму ўласніку і ў хуткім часе пасля перабудовы ў іх паўстане гандлёва-дзелавы цэнтр.

Тым не менш, кіраўніцтва гораду адзначае, што ўмовай продажу будынкаў з’яўляецца захаванне іх арыгінальных фасадаў.

Датычна лёсу чатырох дамоў па вуліцы Лазарэнкі варта адзначыць, што дамы №13 і 15 будуць аб’яднаны ў адзін архітэктурны комплекс. Дом №5 будзе перабудаваны ў шматфункцыянальны адміністрацыйна-гандлёвы цэнтр з культурна-дзелавым прызначэннем, а дом №7 планавалася выставіць на аўкцыён у першым квартале 2014 года.

Старшыня рады Магілёўскага абласнога аддзялення грамадскага аб’яднання “Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры” Уладзімір Краўчанка лічыць, што ўлады працягваюць сістэматычнае знішчэнне гістарычнай спадчыны, якое пачалося яшчэ пры Савецкім Саюзе.

“Непрадуманая палітыка ў галіне захавання гісторыка-культурнай спадчыны губіць нашу матэрыяльную культуру. Калі знішчаць гістарычныя будынкі такімі тэмпамі, то ад Магілёва хутка нічога не застанецца. Магілёў стане горадам панэлек і гіпермаркетаў. Як мы ні спрабуем рэагаваць на захады ўлады знішчыць гістарычныя будынкі, яны застаюцца глухімі і сляпымі да нашых скаргаў”, - кажа Уладзімір Краўчанка.

Трэба адзначыць, што старыя дамы па вуліцы Лазарэнкі былі пабудаваныя на пачатку дваццатага стагоддзя. Некалькі гадоў таму было абвешчана, што частцы вуліцы, на якой знаходзяцца гэтыя будынкі, будзе вернута гістарычная назва — Віленская, аднак усё гэта засталося на ўзроўні дэкларацыі.



**■ Ядвіга Люнтова**

## ЗГУБЛЕНАЯ Ў 2013 ГОДЗЕ АРХІТЭКТУРНАЯ СПАДЧЫНА

### №1 Будынак анкагалічнага хоспіса па вуліцы Лепяшынскага ў Магілёве.

**У канцы траўня 2013 года дарэвалюцыйны будынак пайшоў пад знос. Знесці будынак пастанавілі ў Магілёўскім гарвыканкаме насуперак пратэсту шэрагу грамадскіх арганізацый Магілёва.**



Дом быў пабудаваны ў эклектычным стылі, меў элементы адпаведнага дэкору і лічыўся ў спісе гісторыка-культурных каштоўнасцяў трэцяй катэгорыі. Гэта прадугледжвала захаванне як мінімум самага фасада будынка.

Тым не менш распрацоўшчыкі новага праекта з ААТ «Магілёўграмадзянпраект» палічылі захаванне старога будынка немэтазгодным. Было прынята рашэнне зруйнаваць будынак, а на яго месцы пабудаваць новы, які бы нагадваў стары. Спецыялісты палічылі, што сцены будынка і яго фундамент знаходзяцца ў дрэнным стане і на іх узмацненне будзе затрачана больш рэсурсаў, чым на будаўніцтва новага будынка ў дарэвалюцыйным выглядзе.

### №2 Паштовая станцыя «Вільчыцы», Магілёўскі раён

**25 траўня 2013 года пад каўшом экскаватара пала паштовая станцыя «Вільчыцы», што ў вёсцы Навасёлкі Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці.**



Станцыя была пабудавана ў сярэдзіне XIX стагоддзя, мела дэкаратыўны каваны казырок і арыгінальны знешні выгляд, аднак па нейкай недарэчнасці не мела статуса гісторыка-культурнай каштоўнасці і не знаходзілася пад аховай дзяржавы.

Чыноўнікі толькі развялі рукамі, бо з пункту гледжання закона нічога не было парушана, аднак прыгарад Магілёва пазбавіўся ўнікальнага архітэктурнага будынка.

Паводле гісторыкаў будынак знаходзіўся ў выдатным стане і прычыны ягонага зносу невядомыя дагэтуль.

Паштовая станцыя месцілася на колішнім паштовым тракце Масква-Брэст-Варшава. Тут жа знаходзіліся адміністрацыйныя і гаспадарчыя будынкі, быў невялікі гатэль. Падобныя станцыі раней размяшчаліся кожныя 30-40 кіламетраў і выконвалі ролю апорных кропак паштовага ведамства. Яны забяспечвалі бесперапынную перапраўку грузаў і паштовай карэспандэнцыі.